# З Новым годам!


Адна зямля

# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

28 снежня 2018 года №52 (1235)


старонка 21

Фота Сяргея ЛЕСКЕЦЯ.

# У Крэве калядавалі па ўсіх фальклорных традыцыях




ISSN 1991–7155



Адсканнуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/








Як зладзіць Новы год так, каб не траціць грошай больш, чым трэба? Чытайце пра экалагічны і эканомны падыход да свята

старонкі 7 і 17



Шукай свой навагодні падарунак!



Фота Social Weekend.

Куратар праекта Ганна Холад атрымлівае ўзнагароду.

## Вуліцу стрыд-фуда адкрыюць у Маладзечне ў маі

МАЛАДЗЕЧНА

Прыз глядацкіх сімпатый у 12 сезоне конкурсу Social Weekend атрымала каманда з Маладзечна, якая плануе зрабіць пешаходную вуліцу стрыд-фуда ў горадзе. Куратар праекта – маладзечанка **Ганна Холад**.

На вуліцы будуць ладзіць канцэрты, кінапрагляды пад адкрытым небам, выставы прац мясцовых творцаў і іншыя гарадскія актыўнасці.

**Праект рэалізуюць у маі 2019 года. Мэта – на месцы былога рынку стварыць цэнтр нефармальных зносін і выставачную пляцоўку.**

Актывісты ўжо правялі пілотную прэзентацыю вуліцы. Пра гэта «Рэгіянальная газета» пісала ў верасні. Тады ж зладзілі канцэрт вулічных музыкаў і аздобілі дрэвы яркай вязанай вопраткай. Да навагодніх святаў тут паставілі вязаную ёлку.

Па словах Ганны, маладзечанцы верылі ў перамогу, але прадбачыць нейкі вынік было складана. Разглядалі спіс мецэнатаў і разважалі аб тым, хто ж з іх можа падтрымаць праект. Прыемнай нечаканасцю стала тое, што каманду падтрымаў буйны мабільны аператар.

– Тое, што менавіта наш праект атрымаў прыз глядацкіх сімпатый – важна для нас, – кажа Ганна. – Значыць, праект сапраўды патрэбны і важны для людзей. Мы хочам даць музыкам, мастакам, рамеснікам і іншым творцам рэалізаваць сябе на нашай вуліцы, а ўсім жыхарам атрымоўваць ад гэтага задавальненне. За кошт таго, што вуліца стане пешаходнай, разлічваем, што павысіцца і эканамічная выгада для горада.

Рэспубліканскі конкурс сацыяльных праектаў Social Weekend праводзяць у Беларусі ад 2013 года. За гэты час у ім паўдзельнічалі больш за дзве з паловай тысячы ініцыятыў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У выратавальнікаў – новы аўтамабіль

АСТРАВЕЦ

Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь да Новага года падарыла машыну Астравецкаму РАНС.

Пікап прызначаны для дастаўкі да месца надзвычайнай сітуацыі аператыўнай групы.

**Машына ўкамплектаваная цягавай лябёдкай і тросам, дыхальнымі апаратамі і вогнетушыцелямі, ахоўнымі касцюмамі і камплектамі баявога адзення, ручным гідраўлічным інструментам і іншым сучасным аварыйна-выратавальным інструментам і абсталяваннем.**

Грузавы адсек абаронены ад вільгаці і пылу, станоўчую тэмпературу ў ім падтрымлівае аўтаномны ацяпляльнік. Ёсць магчымасць зарадкі ў аўтаномных умовах радыёстанцый, ліхтароў і іншага электраабсталявання. У салоне ёсць стол-трансформер, ноўтбук, GPS-навігатар і GPS-мадэм, лічбавая фотакамера, відэарэгістратар.

**Паводле сайта МНС.**

# Ускрылі скрыні з грашыма на аднаўленне Казінага мастка

ВІЛЕЙКА

**22 снежня ў вілейскім кінатэатры «Мір» ускрылі скрыні і падлічылі грошы, што вілейчукі збіралі на аднаўленне Казінага мастка.**




Такія скрыні стаялі ў некаторых вілейскіх крамах.

Калі падлічылі грошы, атрымалася 1856 рублёў і 71 капейка, 27,30 еўра, два долары, два злотыя, 34,81 расійскага рубля.

### Як можна сцерці з памяці вілейскую славутасць

Год таму «Рэгіянальная газета» першай напісала пра тое, што вілейскі актывіст прадпрымальнік **Віталь Малыш** арганізаваў збор грошай на аднаўленне Казінага мастка, які пашкодзіла стыхія.

– Я нарадзіўся ў Вілейцы ў іншым раёне, але каля Казінага мастка жылі сваякі, – распавёў тады Віталь карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты». – Таму пачынаючы з сярэдзіны 1980-х гадоў тут я бавіў канікулы, святкаваў дні нараджэння.

**Ведаю, у многіх вілляйчан з мастком звязаныя падобныя ўспаміны. Як можна сцерці з памяці гэту вілейскую славутасць?**

### Знайшліся два спонсары

Днямі Віталь распавёў нам, як змянілася сітуацыя за год:

– Знайшліся першыя спонсары. Завод «Зеніт» гатовы пералічыць тысячу рублёў, дзіцячы цэнтр «Надзея» – дзве тысячы. Спадзяёмся, да іх далучацца і буйныя прадпрымальнікі Вілейкі. Толькі вось дапамогу пакуль няма куды прыняць. Згодна з законам, грошы можна перавесці толькі на дабрачынныя рахункі ці рахункі арганізацый, якія не звязаныя з бізнесам. Пакуль шукаем выйсце.

Яшчэ, па словах Віталя, не застаўся ўбаку і Вілейскі райвыканкам. Старшыня **Віктар Кот** мае свае планы наконт таго, як дапамагчы актывістам з аднаўленнем мастка.

### Віталь Малыш: Вынік перасягнуў мае чаканні

22 снежня на ўскрыццё скрыняў разам з Віталем прыйшлі восем чалавек. Палічылі грошы, склалі пратакол падліку грашовых сродкаў.

– Вынік перасягнуў мае чаканні, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» вілейскі прадпрымальнік, ініцыятар збору грошай на аднаўленне мастка Віталь Малыш. – Часта заходзіў у магазіны, паглядаў на скрыні і не думаў, што могуць столькі сабраць. Быў упэўнены: будзе не больш за тысячу.

Актывіст зрабіў копіі пратакола. Адну адвёз у прыёмную Вілейскага райвыканкама, другую – у мясцовы Савет дэпутатаў.

Па словах Віталя, 22 снежня ў тры гадзіны ў райвыканкаме правялі пасяджэнне, дзе вырашалі, што рабіць для аднаўлення мастка. Магчыма, правядуць суботнікі, магчыма, знойдуць спонсараў. Асноўныя работы плануюць на лета.

### Многія праблемы можна вырашыць, калі аб'яднацца

– Хачу падзякаваць усім, хто паўдзельнічаў у зборы сродкаў, не застаўся ўбаку.

**Аказваецца, многія праблемы можна вырашыць, калі аб'яднацца.**

А яшчэ Віталь Малыш мае адну просьбу да нашых чытачоў:

– Хацелася б даведацца, як правільна, больш выгадна захаваць сабраныя грошы да вясны, калі пачнуцца працы па аднаўленні мастка. Магчыма, хтосьці з кампетэнтных чытачоў мог бы параіць.

Тэлефон Віталя Малыша **8 (033) 6010295**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Як будуць хадзіць аўтобусы ў навагоднія святы

**Маладзечанскі аўтапарк будзе працаваць у святочны перыяд па наступным графіку.**



Фота flashsiberia.com.

### Прыгарадныя аўтобусныя маршруты

29 снежня – па графіку панядзелка

30 снежня – па графіку нядзелі

31 снежня – па графіку панядзелка, акрамя маршрутаў:

Маладзечна-Ілья – па графіку нядзелі

Радашкавічы-ст. Радашкавічы – па графіку нядзелі

Радашкавічы-Алёхнавічы-Еленка – па графіку нядзелі

Маладзечна-Радашкавічы (праз Гранічы) – па графіку нядзелі

Ст. Уша-Чысць – па графіку суботы.

1 студзеня – па графіку нядзелі.

Па **міжгародніМ маршруце Маладзечна-Бараўляны** не будуць працаваць рэйсы ад 29 снежня да 1 студзеня ўключна.

### Як будуць працаваць гарадскія маршруты

**29 снежня** – па графіку рабочага дня

**30, 31 снежня** і **1 студзеня** – па графіку выхаднога дня.

**1 студзеня 2019 года** будуць працаваць наступныя рэйсы.

### Прыгарадныя маршруты

Адпраўленне з аўтавакзала «Маладзечна»:

Маладзечна-Вілейка – 6:31, 9:40, 12:10, 13:15, 14:50, 16:00, 17:45, 18:50

Маладзечна-Соўлава – 7:11, 11:55, 15:11

Маладзечна-Пранчэйкава-Селеўцы – 8:00, 17:40

Маладзечна-Маліноўшчына – 12:30, 16:45, 18:55

Маладзечна-Сінькі – 9:40

Маладзечна-Паняцічы – 12:15, 17:50

Маладзечна-Чарнеўшчына – 13:45

Маладзечна-Селеўцы – 18:40

Маладзечна-Валожын – 13:40, 17:55

Маладзечна-Ленкаўшчына – 14:05, 17:45

Маладзечна-Хатуцічы – 14:40

Маладзечна-Гердуцішкі – 14:45

Маладзечна-Ілья – 13:35

Ст. Уша-Ілья – 14:30, 18:30

Маладзечна-Чысць – 7:30, 12:15, 15:35, 17:30

Чысць-Маладзечна – 13:45, 16:25, 18:30, 22:25

Чысць-ст. Уша – 8:40, 9:55, 10:50, 12:15, 13:00, 13:55, 14:50, 16:05, 17:35, 18:30, 19:20, 20:05, 20:40, 21:35

Радашкавічы-ст. Радашкавічы – 07:10, 13:15, 15:05, 15:50, 16:45, 18:10, 20:20

Ст. Радашкавічы-Радашкавічы – 07:30, 14:05, 15:25, 16:25, 17:15, 19:10, 20:40

### Міжгароднія маршруты

Маладзечна-Мінск (праз Чысць) – 14:35

### Якія рэйсы адмяняюць 31 снежня

**Гарадскія маршруты (нумар – час адпраўлення ад канцавых прыпынкаў):**

1 – ад прыпынку «Віленская» – 22:30

Ад прыпынку «Вёска Цюрлі» («Хлебазавод») – 23:20 (23:25)

2 – ад «ЗПМ» – 22:36, 23:48

Ад «Хлебазавода» – 23:12, 00:23 (дадаткова будзе працаваць рэйс ад «ЗПМ» адпраўленнем у 19:34 і ад «Хлебазавода» ў 20:00).

5 – ад прыпынку «Вул. Велікасельская» – 21:50, 23:10.

Ад прыпынку «В. Насілава» («Здземелева») – (22:32), 23:55 (23:59) (дадаткова будзе працаваць рэйс ад «Вул. Велікасельская» адпраўленнем па маршруце ў 20:20.

6-а – ад «ЗПМ» – 21:56 (дадаткова будзе працаваць рэйс ад «ЗПМ» адпраўленнем у 19:20).

7 – ад прыпынку «Кааператыўныя гаражы» – 21:33, 23:18.

Ад «Хлебазавода» – 22:25, 00:10 (дадаткова будзе працаваць рэйс ад прыпынку «Кааператыўныя гаражы» адпраўленнем у 18:03, ад «Хлебазавода» ў 18:55 і назад ад «Кааператыўных гаражоў» ў 19:47).

9 – ад прыпынку «Аўтавакзал» – 22:00, 22:45 (дадаткова будзе працаваць рэйс адпраўленнем ад «Аўтавакзала» ў 21:20).

10 – ад прып. «Крынічная» – 22:47, 23:47

19 – ад прып. «Вілейская» – 20:47, 21:47.

Ад прып. «Фестывальны» – 21:13, 22:35.

### Якія рэйсы адмяняюць 1 студзеня

**Гарадскія маршруты (нумар – час адпраўлення ад канцавых прыпынкаў):**

1 – ад прып. «Вілейская» – 5:55, 7:15.

Ад прып. «Цюрлі» («Хлебазавод») – 6:35 (6:40), 7:55 (8:00)

2 – ад прып. «ЗПМ» – 5:10, 5:47, 6:25.

Ад прып. «Хлебазавод» – 5:49, 6:21, 7:00

4 – ад прып. «Вул. Маладзечанская» – 6:40, 7:21. Ад прып. «В. Цюрлі» («Хлебазавод») – 7:35 (7:40), (8:11).

5 – ад прып. «Вул. Велікасельская» – 6:10, 6:39.

Ад прып. «В. Насілава» («Здземелева») – (7:03), 7:24 (7:28).

6а – ад прып. «ЗПМ» – 6:08, 6:33, 6:58.

7 – ад прып. «Кааператыўныя гаражы» – 6:02, 6:37, 7:12.

Ад прып. «Хлебазавод» – 6:54, 7:29, 8:04.

9 – ад прып. «Аўтавакзал» – 5:35, 6:20, 7:10. А таксама дадатковы рэйс, што працуе ад 14 снежня 2015 года адпраўленнем ад «Плошчы Цэнтральнай» ў бок цэнтральнай часткі горада, у 05:00.

10 – «Вул. Крынічная» – 6:15, 6:51, 7:09.

11 – ад прып. «Вул. Крынічная» – 5:45, 6:33, 7:20. Ад прып. «Здземелева» – 6:08, 6:56, 7:46.

12 – ад прып. «Вул. Янкі Купалы» – 7:23

18 – ад прып. «Каларыт» – 7:08

19 – ад прып. «Вілейская» – 4:48, 5:54, 6:44.

Ад прып. «Фестывальны» – 5:20, 6:19, 7:12.

22 – ад прып. «П. Сасновы Бор» – 6:04, 7:00.

**Паводле інфармацыі адміністрацыі аўтапарка №4.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.12 | 27.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1304 | **2.1507** |
| Еўра | 2.4272 | **2.4505** |
| Злоты, 10 | 5.6641 | **5.7167** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1726 | **3.1132** |
| Грыўня, 100 | 7.6935 | **7.8950** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 19.12 | 26.12 |
| Еўра | 2.4030/2.4250 | **2.4280/2.4480** |
| Долар ЗША | 2.1180/2.1340 | **2.1330/2.1530** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.12 | 26.12 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **4,10** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,80 | **4,85** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,90 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **4,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,85** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **4,50** |
| Ананас, 1 кг | 5,50 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

ЛІЧБА НУМАРА

**34,6 тысячы**

новых кватэр пабудавалі ў студзені-лістападзе арганізацыі ўсіх формаў уласнасці ў Беларусі.

Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта.







## Затрымалі паляўнічых-парушальнікаў

**ВІЛЕЙКА**
**МЯДЗЕЛ**

Супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі 15 снежня затрымалі двух паляўнічых, якія палявалі без дазволу.

Адзін паляваў з расчахлёнай зараджанай зброяй у паляўнічых угоддзях Крывіцкага лясніцтва ў Нацыянальным парку «Нарачанскі» паблізу вёскі Вытраскі Мядзельскага раёна. Ён не меў дзяржаўнага пасведчання на права палявання, паляўнічай пуцёўкі на здабычу жывёлы і дазволу органа ўнутраных спраў на захоўванне і нашэнне паляўнічай зброі.

Іншага паляўнічага затрымалі ў Вязынскім лясніцтве Вілейскага доследнага лягаса. Гэты паляўнічы не толькі не меў дакументаў на права палявання, але і незаконна захоўваў гладкаствольную паляўнічую стрэльбу, расказаў «Рэгіянальнай газеце» намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Раман Лесін**.

Дзякуючы дзеянням супрацоўнікаў інспекцыі, незаконна здабыць жывёлу ў парушальнікаў не атрымалася. Паляўнічым пагражае штраф ад 20 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй або без канфіскацыі стрэльбаў і з пазбаўленнем спецыяльнага права паляваць на дзікіх жывёл.

Пра ўсе выпадкі парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просьба паведамляць па тэлефоне **8 01797 50740** у Мядзельскую міжраённую інспекцыю альбо на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **8 017 39 00000**, або на тэлефон **102**. Усю атрыманую інфармацыю абавязкова праверацъ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне да смерці збілі пенсіянера. Па падазрэнні затрымалі траіх

**МАЛАДЗЕЧНА**

Труп мужчыны ў інтэрнацкім пакоі, дзе той жыў, знайшлі 24 снежня ў 7:30.

На целе былі сляды пабояў.

– Цяпер на месцы здарэння працуюць следчыя, — распавяла «Рэгіянальнай газеце» афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – Нам стала вядома, што 64-гадовага пацярпелага збіў мясцовы жыхар падчас сваркі з-за непрыязных адносінаў.

Па словах Таццяны Беланог, па падазрэнні ў злачынстве затрымалі траіх удзельнікаў сваркі. Следчыя будуць устанаўліваць ролю кожнага ў здарэнні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пажар у Маладзечне: гаспадары няправільна распальвалі кацёл

**МАЛАДЗЕЧНА**

18 снежня каля дзвюх гадзін на нумар «101» паведамілі пра пажар у жылым доме па вуліцы Янкі Купалы.

Калі прыехалі выратавальнікі, яны ўбачылі, што з акна жылога дома ідзе дым. Гаспадар дома выйшаў сам да прыбыцця падраздзяленняў. Ніхто не пацярпеў.

Пажар пашкодзіў сцены, столь, кацельню, закураныя сцены.

Прычыну пажару высвятляюць. Верагодна, ён здарыўся з-за таго, што гаспадар выкарыстоўваў для распальвання катла лёгкаўзгаральную вадкасць.

Па словах інспектара групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціны Сопат**, дом прыдатны для далейшага пражывання.

**Маладзечанскі ГРАНС нагадвае правілы карыстання катлом:**

- кацёл на цвёрдым паліве павінны быць вычышчаны, бо наяўнасць смалы і сажы зніжае цеплаперадачу і павышае расход паліва
- усе дзверцы павінны шчыльна зачыняцца
- інтэнсіўнасць адкладанняў на ўнутранай паверхні катла залежыць ад віду паліва, цягі ў коміне і рэжыму працы
- ачышчаць кацёл трэба перад пачаткам распальвання і толькі пры астыўшай топачнай камеры сухім метадам без выкарыстання вады і мыйных вадкасцяў

**Забараняецца:**

- перакрываць адтуліны падачы паветра ў памяшканне, дзе працуе кацёл
- выкарыстоўваць віды паліва, якія не прадугледжаны кіраўніцтвам па эксплуатацыі
- каб пазбегнуць атручэння, не дапускаецца спальваць пластмасу, матэрыялы і вадкасці, якія вылучаюць пры згаранні атрутныя газы
- выкарыстоўваць якія-небудзь вадкасці для распальвання і павышэння прадукцыйнасці катла
- праца катла з незапоўненай або часткова запоўненай сістэмай ацяплення.
- запаўненне разагрэтага катла халодным цепланосьбітам
- нельга выконваць запаўненне сістэмы ацяплення і яе падсілкоўванне пад ціскам, які перавышае працоўны ціск у катле.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Жанчына ўчыніла скандал у медыцынскай установе. Ілюстрацыйны здымак.

# Укусіла доктара за нагу, туфлі і штаны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Суд разгледзеў крымінальную справу ў адносінах да 51-гадовай жыхаркі райцэнтра, якая працуе прыбіральшчыцай у адным з дзіцячых садкоў.**

Жанчыну абвінавачвалі ў дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак і паказваюць відавочную непавагу да грамадства і суправаджаюцца гвалтам. Іншымі словамі – у злосным хуліганстве.

Здарэнне адбылося ў чэрвені. Жанчына была ў калідоры адной з медыцынскіх устаноў горада. Яна ўчыніла скандал – гучна крычала і нецэнзурна лаялася. Калі гэта пачуў кіраўнік установы, то выйшаў з кабінета.

Ён зрабіў заўвагу жанчыне і папрасіў выйсці з будынка. У адказ жанчына ўдарыла кіраўніка кулаком у твар. Мужчына спрабаваў адштурхнуць яе. Жанчына ўпала, схапілася рукамі за нагу і пачала кусаць туфлі. Пасля ўкусіла доктара за галёнку, пракусіўшы штаны.

Па справе правялі экспертызу, якая знайшла ў жанчыны псіхічную хваробу. Таму ў той час, калі адбылося злачынства, нападніца не магла ўсведамляць фактычны характар і грамадскую небяспеку дзеянняў і кіраваць імі.

Суд прызнаў, што грамадзянка была не ў сабе і ад крымінальнай адказнасці пазбаўленая. Ёй прызначылі прымусовае лячэнне ў псіхіятрычным стацыянары з узмоцненым назіраннем.

**Аліна УТКІНА,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Як прайшлі калядныя выхадныя экстранных службаў Вілейкі

**ВІЛЕЙКА**

**Па словах старшага дзяржаўтаінспектара Вілейскай ДАІ Ягора Кузьмічова, значных аварый за выхадныя не здарылася.**

Па віне няўважлівых кіроўцаў і з-за неспрыяльных умоў надвор'я машыны часам апыналіся ў кюветах.

– 26 снежня – апошні дзень акцыі «Цвярозы кіроўца», – расказаў «Рэгіянальнай газеце» Ягор Кузьмічоў. – За час акцыі затрымалі трох нецвярозых за рулём.

Шмат рыбакоў было на Вілейскім вадасховішчы, распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі. Аднак выхадныя прайшлі без здарэнняў. Лёд на вадасховішчы – дзесяць сантыметраў, у апошнія дні яго прыцерушыла снегам. Зімовая рыбалка практычна не ўяўляе небяспекі.

23 снежня на Вілейшчыне здарыўся адзін пажар. Пацярпелых няма.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Асудзілі фермера, які прымушаў людзей працаваць на яго

**ВІЛЕЙКА**

**Шэсць гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці – такі прысуд вынес суд Вілейкі фермеру, што два гады пад пагрозай фізічнага гвалту прымушаў людзей працаваць на яго.**

Пра здзекі над работнікамі міліцыянерам распавёў адзін з пацярпелых. Па словах мужчыны, у страху за сваё жыццё ён збег ад свайго працадаўцы. Пасля падрабязнага аповеду пацярпелага падазраванага затрымалі ў пачатку лютага.

Работнік распавёў, што прыкладна два гады таму пачуў, што прадпрымальнік з суседняй вёскі шукае людзей для працы на прысядзібным участку і дogляду за жывёлай. Прапанова падалася прывабнай. Першыя паўгода працадаўца плаціў работніку грошы і даваў вопратку, але потым заробкі сталі меншымі, а з часам зніклі. Людзі перасталі прыходзіць на працу.

Тады фермер прыехаў дадому да аднаго са сваіх работнікаў, збіў яго, паклаў у багажнік аўтамабіля і адвёз да сябе на ўчастак.

> **Там прадпрымальнік зноў прымусіў мужчыну на сябе працаваць, а каб той не збег, на ноч прыкоўваў яго ланцугом да карыта.**

Але аднойчы палонніку ўсё ж удалося ўцячы. Пасля гэтага ён і апынуўся на вакзале ў Віцебску, а яго крыўдзіцель у хуткім часе быў затрыманы. Суд Вілейкі прысудзіў фігуранта не толькі да шасці гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, але і да канфіскацыі ўсёй маёмасці.

Таксама абвінавачанаму трэба будзе выплаціць штраф у памеры амаль дзве з паловай тысячы рублёў. Пакуль прысуд суда ў законную сілу не ўступіў. На тое, каб абскардзіць яго, у бакоў будзе дзесяць сутак.

**Паводле TVR.BY .**



# Следчыя падарылі выхаванцам маладзечанскай школы-інтэрната ласункі і мэблю

МАЛАДЗЕЧНА

**Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці ўжо шэсць гадоў падтрымлівае выхаванцаў Маладзечанскай спецыяльнай агульнаадукацыйная школа-інтэрната №2 для дзяцей з парушэннямі зроку.**

– Па добрай традыцыі, напярэдадні навагодніх і калядных святаў, следчыя прывезлі дзецям салодкія падарункі, а школе перадалі мяккую мэблю, – расказала «Рэгіянальнай газеце» афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

На ўрачыстасць прыехаў намеснік начальніка УСК па Мінскай вобласці **Аляксандр Зямніцкі**. Ён пажадаў дзецям здароўя, радасці, здзяйснення запаветных жаданняў і цудаў.

Падзякай для гасцей стала навагодняе прадстаўленне, падрыхтаванае вучнямі і педагогамі ўстановы. Усе спявалі, танцавалі ў карагодах, гулялі і адгадвалі загадкі.

По словах Таццяны Беланог, свята падарыла ўдзельнікам навагодні настрой.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота забяспечана Таццянай БЕЛАНОГ.

Навагоднія віншаванні ад следчых Мінскай вобласці.

## Вучні з рэгіёна перамаглі ў абласной выставе «Лёд. Кветкі. Фантазія»

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Школьнікі Мінскай вобласці і іх педагогі паўдзельнічалі ў выставе-конкурсе «Лёд. Кветкі. Фантазія». Сярод пераможцаў ёсць вучні з Маладзечна і Вілейкі.

У намінацыі «Саламяны павук «З мінулага ў будучыню» другое месца заняла **Валерыя Яргіна**, выхаванка маладзечанскага цэнтра «Маладзік». Кіраўнік – **Марыя Собаль**.

У гэтай жа намінацыі трэцяе месца заняла яшчэ адна выхаванка «Маладзіка» **Арына Краўчанка**. Кіраўнік – **Таццяна Пархімчук**.

Лаўрэатам у намінацыі «Фларыстычны вянок «Зімовы настрой» стаў **Максім Святоха** з вілейскай школы №3. Кіраўнік – настаўніца рускай мовы і літаратуры **Таццяна Кузняцова**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На камбікормавым заводзе ў Вілейцы пабудавалі цэх для грануліявання камбікорму

ВІЛЕЙКА

Устаноўленае абсталяванне польскай фірмы дазваляе выраблядь да 15 тон ядомых гранул для жывёл і птушак.

Працэс вытворчасці цалкам аўтаматызаваны. За працай велізарнай установкі, для якой быў пабудаваны спецыяльны будынак, сочыць адзін чалавек. Яго працоўнае месца ў аўтаномным памяшканні абсталяванае камп'ютарам.

Аператар у рэжыме рэальнага часу адсочвае ўвесь тэхналагічны працэс: аб'ёмы загрузкі папярэдне здробненага і ўзбагачанага камбікорму, грануліяванне і выгрузку гатовага прадукту.

Устаноўка дазваляе мяняць спецыяльныя фільтры і атрымліваць гранулы камбікорму пэўнага памеру.

Уласнае энергазабеспячэнне цэха дасць магчымасць зменшыць затраты на вытворчасць камбікорму. У цэлым інвестыцыйны праект па ўзвядзенні цэха грануліявання камбікорму абышоўся прадпрыемству ў паўтара мільёна рублёў, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У конкурсе на лепшую ёлачную цацку паўдзельнічала больш за сто чалавек

ВІЛЕЙКА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавяла адна з арганізатараў конкурсу **Вольга Шляпо**.

Па выніках выбралі 32 лепшыя працы, аўтараў якіх узнагародзяць у студзені наступнага года. Цацкі прадставяць на выставах у школах Вілейшчыны.

Нагадаем, што пра конкурс аб'явілі каардынатары суполкі «Інфармацыйны цэнтр аб працы камунальных службаў».

Віляйчанам прапанавалі паўдзельнічаць у конкурсе на стварэнне экалагічнай цацкі. Для гэтага трэба было ствараць навагоднюю цацку або ёлку з экалагічных матэрыялаў, падзяліцца гэтай навінай на старонцы суполкі і збіраць лайкі-галасы пад сваім пастом.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На навагодняй выставе ў музеі можна пагуляць і паскладаць пазлы

ВІЛЕЙКА

У вілейскім краязнаўчым музеі зладзілі выставу «Новы год у бабы Ягі».

На выставе – вырабы і малюнкі, створаныя наведнікамі Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва і выхаванцамі Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Усё – на навагоднюю тэматыку.

Калі вы завітаеце, у вас складзецца ўражанне, быццам бы прагульваецеся па хаціне бабы Ягі, запэўнілі арганізатары.

Для маленькіх наведнікаў ёсць інтэрактыўныя зоны. Тут можна пагуляць і паскладаць пазлы.

Выстава будзе працаваць да 15 студзеня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

**3 надыходзячымі Новым годам і Каляддамі віншуюць сябры чулага і спагадлівага чалавека – Васіля Таркана з Маладзечна.**

Дарагі дружа, здароўя табе і шчасця ў новым, 2019 годзе!

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Chrysler Neon, 1995 г.в., кожны дзень на хаду, абмяняю на іншы а/м або прадам. 2 600 руб., торг. Т. (8-033) 3668181, (8-025) 7639296.*

• Кіа-Сарэнта, 2005 г.в., прабег 290 000 км, 15 000 руб. Т. (8-029) 7639029.*

• Опель-Корса, 2007 г.в., 1,2 бензін, добры стан. Цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 2517042.*

• Форд-Мандэа, 1,8 дызель, універсал, 2000 год, 4250 руб. Т. (8-029) 5552409, (8-029) 1844011.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### МЯНЯЮ

• Пасат-3 на Жыгулі. Альбо прадам. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольнай альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• Гараж у цэнтры Маладзечна ў ГК №1, магчымы абмен на аўто. Т. (8-029) 6128021.*

• Дом у а.г.Мацькаўцы Вілейскага р-на. Нядорага. Т. (8-029)6110737.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Саджалка, капалка да міні-трактара МТЗ-132Н. Т. (8-044) 5543365.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Секцыя «Іпуць», 4 шафы, шпон дуба, 220 рублёў, п. Чысць. Т. (8-029) 6899640.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Свінка 1,4 года, 5 руб. за кг. Т. МТС (8-029) 7309524.

**Іншае**

• Гатовыя зрубы з масіву сасны, елкі пад заказ (дамы, альтанкі, лазні). ІП Квяткевіч Д.В. УНП 691182183. Т. МТС (8-029) 2727029.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

• Карову з зімнім ацёлам. Т. (8-025) 7894666.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу дробную, збожжа, камбікорм для свіней і муку каровам. Т. (8-025) 7894666.

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Ціскі. Т. (8-029) 2375721.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель катэгорыі D «Аўтобус» на заказ. Заработная плата годная. Мядзел. Т. (8-029) 6777092.

• Швачка на вытворчасць па пашыве мяккай цацкі, досвед працы швачкай. Поўная занятасць на тэрыторыі працадаўцы. Тэл. (8-029) 1281620.*

### ШУКАЮ ПРАЦУ

• Зборка і ўстаноўка мэблі. Т. (8-029) 7040346.*



Няхай ваш падарунак будзе не толькі прыемны, але і карысны.

# Падарункі, якія парадуюць усіх і не зашкодзяць прыродзе

## 10 парадаў ад экспертаў

**1. Набывайце патрэбнае**

Не саромейцеся пытацца ў родных і сяброў, чаго яны самі хочуць. І кажыце іншым, чаго хочацца вам. Адмоўцеся ад фразы «хай і абы-што, але ж які-ніякі падарунак».

**2. Дарыце эмоцыі і ўражанні**

Білеты ў кіно і тэатр, сертыфікаты на працэдуры і майстар-класы, абанементы на заняткі прынясуць уладальніку куды больш пазітыўных эмоцый, чым чарговая статуэтка.

**3. Памятайце пра дабрачыннасць**

Калі вы хочаце зрабіць прыемнае сябру, але ні ў яго, ні ў вас няма ідэй для падарунка, пералічыце грошы ад яго імя на падтрымку важнага праекта.

**4. Дарыце падарункі без упакоўкі або запакоўвайце ў паперу ці тканіну**

Адмоўцеся ад бліскавак, стразаў і пластыкавых пакетаў.

**5. Купляйце мясцовае**

Падтрымайце рублём мясцовых майстроў і рамеснікаў, яны найчасцей працуюць з натуральнымі матэрыяламі. Гэта куды лепш, чым набываць тавар кітайскага мас-маркету. Апошні будзе не толькі сумнеўнай якасці, але да таго ж на яго транспарціроўку ў Беларусь траціцца сотні літраў паліва.

**6. Прыгледзьцеся да эка-падарункаў**

Сяброўка любіць каву і бярэ на вынас? Купіце ёй якасны тэрмакубак. Сябра любіць набываць садавіну на рынку? Набудзьце яму палатняныя торбачкі, з якімі зручна хадзіць за пакупкамі. Скарыстайцеся сілай свята, каб перацягнуць знаёмых на бок экалагічнага ладу жыцця.

**7. Рабіце сваімі рукамі**

Калі яны растуць з правільнага месца – грэх гэтым не скарыстацца! А сябры ацэняць эксклюзіўнасць падарунка.

**8. Давайце рэчам другое жыццё**

Калі вашы сябры і родныя не маюць нічога супраць б/у рэчаў, то не абыходзьце бокам сэканды-хэнды, камісіёнкі і букіністычныя крамы.

**9. Падарыце сваю дапамогу**

Умееце збіраць мэблю, садзіць дрэвы ці працаваць на швейнай машынцы? Падарыце свой час і дапамогу!

**10. Дамоўцеся, што на працы будзеце не дарыць, а дзяліцца**

Перад святамі арганізуйце свой фры-маркет. Хай кожны прынясе з дому рэчы добрай якасці, якія ляжаць дома без патрэбы. Ёсць вялікая верагоднасць таго, што ваша форма для выпякання, якая пыліцца на кухні ўжо два гады, спатрэбіцца калегу.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Што трэба ведаць пра атручэнне газам

**Неабходнасць аказаць першую дапамогу можа ўзнікнуць як у абанентаў (спажывальнікаў) гарадской газавай гаспадаркі, так і ў іншых людзей, якія не аказаліся ў зоне аварыі.**

Чалавечы арганізм павінны ажыццяўляць два пастаянныя бесперапынныя працэсы, парушэнне якіх праз шэсць-восем хвілін можа прывесці да смерці чалавека. Гэтыя працэсы – дыханне і дзейнасць сэрца.

Клеткам у арганізме неабходны кісларод. Без яго клеткі мозга паміраюць праз шэсць-восем хвілін. Кісларод дастаўляецца крывёй. Гэты працэс можа парушыць няшчасны выпадак, у тым ліку звязаны з прымяненнем газавага паліва ў быце і прамысловасці. У выніку можа спыніцца сэрца чалавека і яго дыханне.

Калі ў арганізм трапляе чад, ён пачынае злучацца з гемаглабінам крыві. У выніку кісларод перастае трапляць у кроў. Пры вялікай канцэнтрацыі чаду могуць узнікнуць спазмы галасавых звязак і закрыццё галасавой адтуліны. У выніку кісларод не трапляе ў лёгкія. Калі чалавек учадзее, нейкі час сэрца можа працаваць, але слаба.

Такія няшчасныя выпадкі звычайна здараюцца са спажывальнікамі прыроднага і звадкаванага газу, калі не правяраюць цягу, няма канфорак з высокімі рэбрамі, не праветрываецца памяшканне.

Каб дапамагчы чалавеку, які ўчадзеў, варта навучыцца рабіць штучнае дыханне і вонкавы масаж сэрца.

**Таццяна ШАМШУРА, Дэпартамент па наглядзе за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці МНС Рэспублікі Беларусь.**





● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота Deluxe-Travel.

Навагодняя прыгажуня мае доўгі шлях да сённяшніх традыцый.

# Чаму на Новы год мы ставім ёлку

**Пакуль не паставіш у доме калючую прыгажуню, свята не адчуваецца напоўніцу. І як толькі ўпрыгожыш дрэўца, нібыта сапраўднае чараўніцтва напаўняе пакой. А калі жывая елка прынесла з сабой пах лесу, то ўся сям'я становіцца героямі калядннай казкі.**

Навагодняя прыгажуня пераадолела доўгі шлях, каб стаць абавязковай часткай свята і сімвалам самага яркага свята года. Давайце разбяромся, адкуль яна ўзялася. І як нашы навагоднія традыцыі звязаныя з Германіяй.

### Спачатку ёлка была не ў дамах

Ёлка як сімвал Новага года і Калядаў прыйшла якраз з нямецкіх зямель. Традыцыя святкаваць новы год існавала яшчэ ў Старажытным Рыме. Спачатку галоўны святар мог вырашаць, калі заканчваць год, і колькасць дзён штогод магла быць рознай. А пазней рымляне пачалі святкаваць новы год 1 студзеня – акурат у дзень, калі абіралі новага консула, які прымаў прысягу.

Германцы і кельты яшчэ ў старажытнасці праводзілі абрады, цэнтрам якіх была якраз елка. Яшчэ калі жылі плямёнамі, менавіта гэтаму дрэву пакланяліся як абаронцу ад зла і сімвалу вечнай маладосці і добрага жыцця. У канцы года племя шукала самую вялікую елку, упрыгожвалі яе ежай. Традыцыйна гэта былі яблыкі і арэхі. І цяпер на калядным стале ў Германіі абавязкова будзе сімвалічная талерка з яблыкамі і арэхамі. Такі абрад павінны быў прыцягнуць добрыя сілы.

**Ёлку надзялялі магічнымі ўласцівасцямі, і такі рытуал ахвярапрынясення павінны быў спрыяць лепшаму. Каб жыццёвая сіла дрэва дапамагла сям'і.**

Упрыгожваць ёлку шклянымі шарыкамі пачалі выпадкова. У адзін з гадоў не ўрадзілі яблыкі. А майстры па выдзіманні шкла зрабілі шкляныя яблычкі. Многім так спадабаліся новыя ўпрыгажэнні, што ёлачныя цацкі сталі новым папулярным таварам. Пасля іх пачалі рабіць розных форм і з розных матэрыялаў.

**Першы дакумент, у якім згадваецца калядная ёлка, датаваны 1521 годам. Яго знайшлі ў Эльзасе.**

З нямецкіх зямель звычай перайшоў і ў іншыя месцы. Нават у Егіпце ўпрыгожвалі пальмы і задобрывалі багоў рознымі пладамі. Да ўсходніх краін ёлка дайшла ў пачатку 20 стагоддзя. Аднак у Турцыі ўжо ў 1936 годзе забаранілі ўпрыгожваць дамы ляснымі красунямі – іх вельмі мала ў спакотнай краіне. У Расію еўрапейскія традыцыі прыйшлі з Пятром І.

А ў Беларусі ставіць ёлку дома пачалі на мяжы 19-20 стагоддзяў. Да гэтага навагоднім чараўніком быў Зюзя, але паступова дзецям пачалі расказваць пра ўніфікаванага Дзеда Мароза, які сочыць за паводзінамі і выбірае, які падарунак даць кожнаму з дзетак. А пасля да яго далучылася і Снягурка, якая дапамагала дзядулі забаўляць дзетак.

### Чаму ёлка нейкі час была пад забаронай

У час Першай сусветнай вайны забаранілі ставіць ёлкі на тэрыторыі былой імперыі, у склад якой уваходзіла Беларусь. І прычына не ў тым, што вайна – не час для свята.

**Традыцыя ставіць ёлкі ішла з Германіі, якая ў той час была ворагам. Пасля вайны ў Савецкім Саюзе гэта традыцыя была не ў пашане. Мала таго, што буржуазная традыцыя, ды яшчэ з хрысціянскімі складнікамі.**

На тэрыторыі Заходняй Беларусі традыцыя ўстанаўліваць навагоднюю прыгажуню амаль не перарывалася. А ў СССР ёлку вярнулі ў 1936 годзе. Нібыта Сталін вырашыў, што савецкім дзецям трэба свята, і дазволіў яго з такім атрыбутам. Аднак важна было, каб ёлка была іменна навагодняй і перабіла ўсе калядныя ўрачыстасці, якія мелі дачыненне да рэлігіі. Калядную зорку замянілі на пяціканцовую, а ўпрыгажэнні рэкамендавалі суадносіць з планамі на пяцігодку. Рабіць цацачныя трактары і правозы, кукурузу і моркаўкі, а пасля палёту Гагарына дрэўца ўпрыгожвалі ракетамі і касманаўтамі.

Тэлевізар яшчэ мацней замацаваў за Новым годам папулярнасць. Шампанскае, куранты і віншаванне кіраўніка краіны сталі неад'емнай часткай многіх менавіта праз яго.

### Як з ёлкай звязаны Лютар

Калі ёлка як навагодні і татэмны сімвал вядомая здаўна, то ў Каляды яе ўплёў Марцін Лютар.

**Заснавальнік пратэстантызму хацеў на базе язычніцкіх вераванняў пабудаваць новую традыцыю, таму ёлку ўпрыгожыў віфлеемскай зоркай, а на лапкі паставіў свечкі.**

Да гэтага кроку, а нейкі час і пасля яго ёлку ставілі не на падлогу, а прымацоўвалі дагары нагамі да столі. Так проста весяліліся, да яе прывязвалі смакату, а дзеці павінны былі зняць прысмакі.

Таму калі цяпер вы ўбачыце ёлку на столі, то гэта не нешта новае, а адсылка да старога звычаю.

Так калядная ёлка прыйшла да нас з язычніцкіх абрадаў з нямецкіх зямель. Пасля ёй надалі свецкі сэнс свята Новага года. Пасля спрабавалі далучыць да калядных хрысціянскіх традыцый. Ды і камуністы праз ёлку спрабавалі прасоўваць свае задумы.

**Цяпер жа ёлка – сімвал галоўных зімовых святаў. Для кагосьці гэта пачатак года, для іншых – Каляды. Беларусы ставяць ёлку перад калядамі 25 снежня, а прыбіраюць пасля старога Новага года – каб адзначыць усе святы і нікога не пакрыўдзіць.**

**Эмілія ХВОЯ.**

# Як не ператварыць навагоднія святы ў навагоднюю звалку

**Падарункі для родных і сяброў, упрыгожванні для дому і офіса, прадукты для святочнага стала, салюты і хлапушкі. Столькі ўсяго трэба паспець купіць перад святамі – думаюць многія з нас. Але ці сапраўды трэба? Ці насамрэч усе гэтыя рэчы прынясуць радасць? І якая частка з купленага ў выніку апынецца ў сметніцы?**

## Як правільна выкінуць смецце пасля навагодніх святаў?




1 — небяспечныя адходы (батарэйкі, гірлянды)

2 — шкло (бутэлькі, слоікі)

3 — змешаныя адходы (рэшткі ежы, жывыя і штучныя ёлкі, мішура, тэтра-пакі, свечкі, сапсаваныя цацкі і г.д.)

4 — пластык (бутэлькі, бляшанкі, шчыльныя пластыкавыя пакеты)

5 — папера (кардонныя і папяровыя пакеты і каробкі, паштоўкі без ламінацыі і бліскавак, упакоўка ад ежы, не запэцканая тлушчам)

Эксперты Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск) **Марыя Сума** і **Наталля Блышчык** дапамогуць нам пабачыць, які след у экалогіі мы пакідаем, адзначаючы зімовыя святы. І адкажуць на галоўнае пытанне – як можна яго паменшыць.

### Ёлка. Натуральная ці ўсё ж штучная?

Зімовыя святы пачынаюцца менавіта з зялёнай прыгажуні. Якую б ёлку вы ні выбралі, заўсёды будуць свае плюсы і мінусы.

– Штучная ёлка – гэта, вядома, пластык. Прычым адзін з самых небяспечных, які не перапрацоўваецца ў Беларусі, – кажа Марыя Сума. – Але з іншага боку, гэта прадукт шматразовага выкарыстання. Калі ваша штучная ёлка служыць вам ужо гадоў 20, то гэта добрае рашэнне.

Натуральнае дрэўца ў сваю чаргу праслужыць толькі адзін раз, але прынясе ў кватэру пах хвоі і атмасферу свята. Калі вы абіраеце жывую ёлку, то набывайце яе на ёлачных базарах, а не з рук. Тады будзе пэўнасць, што дрэўца паходзіць з плантацый, дзе ёлкі вырошчваюцца адмыслова для святаў.

– Ёсць і альтэрнатывы, – дадае эксперт. – Можна пасадзіць ёлку ў двары і ўпрыгожыць яе разам з суседзямі – заадно наладзіць добрыя адносіны. Можна набыць ёлку ў кадцы і пасля святаў высадзіць у двары. Так, ёлкі не заўсёды прыжываюцца, але, магчыма, вам пашчасціць. Можна зрабіць ёлку самім з чаго заўгодна – кардону, галінак, тканіны. А калі ўсё ж хочацца паху хвоі – зрабіць букет ці вянок з ёлачных галінак.

### Упрыгожванні. Без бліскавак, стразаў і пластыку

– Ведаеце, што я бачу, калі гляджу на прылаўкі крамаў, заваленыя мішурой, таннымі цацкамі і агеньчыкамі? – пытаецца Наталля Блышчык. – Звалку, звычайную гарадскую звалку. Бо менавіта там праз месяц будуць ляжаць гэтыя цацкі. Мы згубілі адчуванне свята, якое ідзе знутры. Мы ўсё больш звязваем яго са знешнімі атрыбутамі – упрыгожваннямі.

Купіць ёлачны шарык можна за капейкі. Ён не паб'ецца, бо зроблены з пластыку, і пераліваецца, бо пакрыты бліскаўкамі. Але спецыялісты раяць глядзець глыбей.

> **– Танныя ўпрыгожванні – гэта свінец у фарбах, мікрапластык і фармальдэгід, – нагадвае Марыя. – Выбірайце ёлачныя цацкі ў крамах, дзе вам могуць паказаць сертыфікат якасці. Пазбягайце цацак, якія маюць моцны пах і пасля якіх на руках застаюцца сляды фарбы і бліскаўкі. Яны зробленыя з небяспечных матэрыялаў.**

І калі шарык яшчэ можна выкінуць у кантэйнер для пластыку, то бліскаўкі з хлапушак застануцца на зямлі. Яны раскладуцца на мікрапластык, разам з талым снегам патрапяць у сцёкавыя воды, адтуль – у рэкі, дзе іх з'ядуць рыбы. І разам з рыбамі вернуцца ў нашыя талеркі.

– Да ўсяго трэба ставіцца з розумам, – кажа Наталля. – Калі вы купілі танныя пластыкавыя цацкі і павесілі іх дома над свечкамі, то добры дзень, ракавыя захворванні! Падтрымайце лепш беларускіх рамеснікаў, якія робяць цудоўныя рэчы з дрэва і паперы.

### Ежа. Не гатуйце на роту салдат

Наўрад ці сярод нас знойдуцца тыя, хто ні разу не выкідаў ежу, якая засталася пасля святаў.

Кожная гаспадыня мае свае хітрыкі, каб пазбегнуць гэтага. Не запраўляць маянэзам адразу ўвесь салат, а толькі часткамі. Замарозіць садавіну, якая засталася. Але гэта – барацьба з наступствамі. Лепш зрабіць так, каб да гэтых хітрыкаў не дайшло.

– Спісы – гэта наша ўсё! Разлічвайце колькасць прадуктаў на колькасць гасцей і хадзіце ў краму са спісам, – нагадвае Наталля. – Старайцеся набываць прадукты без упакоўкі і правільна іх захоўваць.

Памятайце пра сезоннасць. Лепей адмовіцца ад кавуна і клубніц за навагоднім сталом, а пераключыцца на хурму, мандарыны і гранаты. Так будзе лепей і для здароўя, і для кашалька, і для экалогіі.

Адмоўцеся ад аднаразовага посуду, нават калі на ім стаіць знак, што пластык перапрацоўваецца. Так, у некаторых краінах перапрацоўваецца, але ў Беларусі ён пойдзе на звалку.

– Пластык, з якога робяць посуд, вельмі тонкі, – тлумачыць Наталля. – Перапрацоўшчыку трэба сабраць яго некалькі тон, каб быў сэнс спыніць працэс і перанастроіць абсталяванне на тонкі матэрыял. Гэта для яго неапраўданыя затраты часу.

Каб уявіць сабе маштаб праблемы пластыку, дастаткова некалькіх лічбаў. Калі ў 1972 годзе ў Беларусі ўтварылася 4,5 мільёна кубаметраў бытавых адходаў, то ў 2002 годзе – 10 мільёнаў, а ў 2017 – 20 мільёнаў. І толькі 9% пластыку, які выкідвалі беларусы ад 1950 года, пайшло на перапрацоўку. Астатні 91% дагэтуль ляжыць на палігонах.

### Піратэхніка. Лепш назіраць за салютам з акна

Спіс шкодных рэчываў, якія ўваходзяць у склад піратэхнікі, не змесціцца на адной старонцы. Сярод іх шмат цяжкіх металаў – медзь, свінец, ліцій, мыш'як. Яны не толькі трапляюць у навакольнае асяроддзе, але і ўдыхаюцца тымі, хто запускае салют. Да таго ж яны маюць уласцівасць назапашвацца – і ў прыродзе, і ў арганізме.

Эколагі нагадваюць і пра траўматычнасць піратэхнікі – летась падчас навагодніх святаў ад яе пацярпела пяць беларусаў, а яшчэ 60 па ўсёй краіне звярнуліся па медыцынскую дапамогу пасля яе выкарыстання.

– Калі вам так хочацца навагодняга цуда, то стварыце яго самі, – рэкамендуе Марыя. – Напрыклад, як жыхары шведскага горада Упсала, якія стварылі на Каляды «Сцяну дабрыні». Сцяна стаяла на вуліцы і была ўся ў вешалках. На ёй можна было пакінуць адзенне, якое некаму непатрэбнае, але можа спатрэбіцца іншым.

Навагоднія святы – гэта цудоўны і магічны час. Але ў святочнай спешцы не забывайцеся спыніцца і паслухаць сябе – што вам сапраўды трэба і што робіць вас шчаслівымі? Магчыма, адзіная патрэбная вам на гэты момант рэч – гэта зусім не рэч. Не новая гірлянда і не стол на пяцьдзесят страў, а проста спячы ўсёй сям'ёй пірог па бабуліным рэцэпце ці ўрэшце зрабіць сваімі рукамі калядны вянок на дзверы.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Марыя Сума.



Наталля Блышчык.

# Мог гадзінамі распавядаць пра паэта і чытаць яго вершы

## Юрась Церабун – пра Міхаіла Ляпеху – захавальніка спадчыны Францішка Багушэвіча

СМАРГОНЬ

**Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце, не адзін дзясятак гадоў працягвалася наша шчырае сяброўства з Міхаілам Ляпехам з Кушлянаў.**

### Прыязджаў да маладзечанскіх дактароў

Калі Міхаіл Сымонавіч прыхварэе, заўсёды прыязджаў да мяне ў музычную школу, што месцілася тады ў Маладзечне па вуліцы Тамілліна.

– Што мне тыя бальніцы ў Солах альбо Смаргоні. Думаю, паеду ў Маладзечна, там дактары лепшыя, і з вамі неяк спакайней. Відаць, у мяне запаленне лёгкіх. Вядома, жыву ў холадзе. Нервы разышліся і боль па ўсім целе.

– Добра, – кажу. – Пойдзем да доктара на прасвятленне, як вы просіце.

Пайшлі ў раённую бальніцу. Там бацька маёй вучаніцы, **Мікалай Уладыка**, працаваў рэнтгенолагам. Ён ветліва нас прыняў і папрасіў распрануць дзядзьку Міхаіла. У цёмным цесным пакойчыку пры чырвонай лямпачцы з цяжкасцю я зняў усе яго камізэлькі. Доктар паставіў хворага да апарата і стаў разглядаць:

– Нічога не бачу. Паглядзіце самі.

Я глянуў на экран. Лёгкія чыстыя, толькі выразна вымалёўваліся жабэркі Міхаіла Сымонавіча.

Рэнтгенолаг кажа:

– Давайце я зраблю вам здымак.

– Не трэба, – кажу. – Што ён з ім у Кушлянах будзе рабіць. Дзякуй.

Дзядзька Міхаіл ніколі не курыў, не ўжываў гарэлкі і дыхаў чыстым кушлянскім паветрам.

На развітанне я параіў Міхаілу Сымонавічу, калі вернецца ў Кушляны, каб знайшоў кабету гадоў пад 80, а тая напаіла яго добрай гарачай гарбатай з ліпавым мёдам і зрабіла масаж плячэй, якія ён застудзіў.

Неўзабаве дзядзька даслаў мне ліст, у якім пісаў: «З вашай дапамогай маю хваробу як рукой зняло». Вось вам і Маладзечна. У нас сапраўды ўсе добрыя дактары.

### Зімой падлога ў хаце была слізкай

Міхаіл Сымонавіч жыў адзін у бакоўцы хаты Францішка Багушэвіча. Зімой там быў такі холад, што ў маразы падлога пакрывалася шэранню і хадзіць было нават небяспечна: настолькі яна была слізкая. Але самым вялікім выпрабаваннем было тое, што снег намятаў ля ўваходных дзвярэй гурбы. Спаць даводзілася амаль не распранаючыся, а аднойчы ноччу гаспадара за нос укусіў пацук, аж знак застаўся.

Дочкі забіралі бацьку да сябе ў Маладзечна, але ён адмаўляўся. Не мог пакінуць хату паэта, бо людзі розныя бываюць, маглі і шкоды нарабіць.

### І ўсё ж ён быў вялікім рамантыкам

Дачакаўшыся вясны, наводзіў парадак, сеяў кветкі, падразаў кусты і дрэвы. У садзе было шмат сліў, і ён, як мог, сам варыў варэнне. Буйныя яйкі браў у суседкі, сала і іншыя вясковыя прадукты купляў у людзей, бо да крамы ісці было далёка. У якой студні браў ваду, не ведаю. Магчыма, на ферме, што была непадалёку.

Жыццё было такім, што не пазайздросціш. І ўсё ж ён быў вялікім рамантыкам. Задумаў зрабіць сонечны гадзіннік. Усё меркаваў, як і з чаго. Хадзіў па палях, збіраў круглыя камяні і насіў іх пад хату. Марыў зрабіць кампазіцыю, каб тыя камяні надзець на кавалак арматуры. Пытаннем было толькі, як прасвідраваць дзіркі. Такое ён бачыў недзе ў Літве. Людзі казалі Міхаілу Сымонавічу, што гэта вельмі складана і ў хатніх умовах немагчыма. А той у адказ:

– А там жа неяк зрабілі?..

Хадзіў да леснікоў, каб тыя падшукалі і распілавалі бярвенні дуба. Ён марыў зрабіць альтанку з асновай у форме крыжа. І майстры, якім ён заплаціў уласнымі грашыма, здзейснілі яго мару. Не лішнім было сёння ў гэтай альтанцы зрабіць памятную шыльдачку, дзе ўзгадаць Міхаіла Ляпеху (1903-1992), бо на хаце такія рэчы вешаць не дазваляецца.

**Алесь Жамойцін**, паэт, музыка, настаўнік, дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея сядзібы Францішка Багушэвіча, выдзеліў Міхаілу Сымонавічу цэлы стэнд у музейнай экспазіцыі. І ён гэтага заслугоўвае.

Кушляны – маляўнічы куточак Смаргоншчыны. Тут нават хмары плывуць па небе неяк своеасабліва, паэтычна. Вось як пісаў пра гэта Францішак Багушэвіч:

*Хмаркі цёмныя,*
*мае братанькі!*
*Вецер гоне вас*
*без дарожанькі,*
*І нігдзе ж для вас*
*няма хатанькі…*
*Адпачынеце*
*аж у Божанькі.*

### Здавалася, што Міхаіл Ляпеха і Францішак Багушэвіч былі сваякамі

Мне здавалася, што Міхаіл Сымонавіч быў сваяком Багушэвіча. Ён так дасканала ведаў пра жыццё і творчасць паэта, мог гадзінамі чытаць яго вершы. Дзядзька Міхаіл рады быў сустракаць рэдкія ў той час экскурсіі, што прыязджалі ў Кушляны. Часцей за ўсё гэта былі школьнікі са сваім настаўнікам.

З задавальненнем экскурсавод вадзіў наведнікаў да каменя Мацею Бурачку, ганарыўся сваёй алеяй з 60 дубоў, што высадзіў у гонар колькасці гадоў, пражытых паэтам. Абавязкова хадзілі дзівіцца на сялянскі свіран – помнік даўніны.

Пасля 80-годдзя Міхаілу Ляпеху захацелася хатняй утульнасці і цяпла, але Кушляны пакідаць ён не збіраўся. Нарэшце былы старшыня мясцовага калгаса, а потым Смаргонскага райвыканкама дэпутат **Анатоль Янец** паехаў у Мінск вырашаць лёс занядбанай будыніны. Пытанне вырашылі, хата ператварылася ў музей.

### Сумаваў без дубкоў і паэтавай хаты

Калі сядзіба стала аднаўляцца, Міхаіл Сымонавіч палічыў сябе тут не надта патрэбным, пагадзіўся пераехаць да дачкі ў Маладзечна. Дачка, **Марыя Цялега**, стварыла яму ідэальныя ўмовы. Аднак адарваны ад сваіх дубкоў і хаты, ён стаў губляць сілы. Калі Міхаіла Сымонавіча не стала, мне не паведамілі, і я не змог правесці яго ў апошні шлях.

Бываючы ў Кушлянах, заўсёды згадваю гэтага незабыўнага дзядзьку. Мне здаецца, што Міхаіл Сымонавіч недзе тут і ніколі не пакідаў гэтыя маляўнічыя мясціны і хату.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**
**Фота аўтара.**



Міхаіл Сымонавіч Ляпеха (1903-1992) у Кушлянах.


Кушляны. Дом-музей Францішка Багушэвіча.

# У чым загадка Касцельнай гары ў Крэве

СМАРГОНЬ

**Да нашага часу ў гісторыі крэўскага касцёла існуе шэраг белых плямаў. Пакуль нявырашаным застаецца і пытанне пра яго першапачатковае месцазнаходжанне.**




Магчыма, Вялікі крэўскі камень выкарыстоўваўся ў часы паганства.

Лічаць, што першы касцёл у Крэве пабудавалі ў 1387 годзе.

Старажытныя архіўныя дакументы і кнігі падаюць даты з жыцця крэўскага касцёла, звесткі пра колькасць парафіянаў у розныя часы, пра касцельную маёмасць. Аднак ніводзін з дакументаў не ўдакладняе месцазнаходжанне святыні. Прынята лічыць, што ад самага пачатку знаходзілася яна на адным і тым жа месцы – у цэнтры мястэчка, непадалёк ад замка. Толькі ці адпавядае гэта рэчаіснасці?

На развагі наводзіць адметная назва аднаго пагорка, які знаходзіцца недалёка ад гарадзішча. У наш час гэта назва ўжо знікла з ужытку, але, як сведчыць краязнаўца **Пётр Грынкевіч**, той пагорак некалі называлі Касцельнай гарой.

## Арыенцір – Адольф Высоцкі

Па словах краязнаўцы, гэтая гара «знаходзіцца насупраць **Адольфа Высоцкага**». Дакладна вядома, што Высоцкія заўжды жылі недалёка ад гарадзішча: спачатку – зусім побач, на Зарэчнай, а пасля – таксама непадалёк, але ўжо праз дарогу, на Смаргонскай. Так што нават не ведаючы, які з двух дамоў Высоцкіх, стары ці новы, меў на ўвазе Грынкевіч, усё адно, гаворка вядзецца пра мясцовасць каля гарадзішча. На жаль, адзіны арыенцір – «насупраць Высоцкага» – мала што дае для дакладнага вызначэння месцазнаходжання пагорка ад любога з тых двух дамоў: гэта мог быць накірунак, у які заўгодна бок, і адлегласць невядома якая. І гэта пры тым, што і пагоркаў тут мноства. Усё ж найверагодней, што гаворка ішла пра пагорак, які размешчаны зусім побач з гарадзішчам і які ў наш час многія называюць Громам.

У выпадку, калі Грынкевіч меў на ўвазе не дамы Высоцкага, а яго зямельны надзел, то Касцельная гара магла размяшчацца недзе ў іншым месцы, бо надзелы сялянам выдзялялі нярэдка ўбаку ад іх жылля. Тым не менш, ён усё адно знаходзіўся недзе побач.

## Як дапамагла нямецкая карта часоў Першай сусветнай

Яшчэ раз вярнуцца да звестак Грынкевіча пра Касцельную гару мяне прымусіла схема размяшчэння нямецкіх баявых пазіцый у Крэве і ваколіцах часоў Першай сусветнай вайны. Яна была знойдзеная ў выдадзенай немцамі гісторыі аднаго з палкоў, які вайной стаяў тут. На ёй, непадалёку ад «Schweden Schanze» (Шведскае ўмацаванне, гарадзішча), значыцца і «Kirche» (перакладаецца як «касцёл»).

Пра іншую назву гарадзішча пытанняў не было. Вядома, што па ўсёй Беларусі іх часта называюць то шведскімі горкамі, то шведскімі магіламі. Магчыма, падобную яго назву выкарыстоўвалі некалі і жыхары Крэва. Мяне ж больш цікавіў тапонім «Касцёл».

Наклаўшы пры дапамозе камп'ютара нямецкую схему на сучасную тапаграфічную карту, я лёгка вызначыў, дзе знаходзіцца той пагорак на мясцовасці. Вельмі верагодна, што надзел зямлі Высоцкага мог знаходзіцца тут. Калі гэта так, то Касцельная гара – гэта і ёсць «Kirche» (касцёл) на нямецкай схеме. Калі ж Грынкевіч меў на ўвазе ўсё ж дом Высоцкага, то гэта маглі быць два розныя тапонімы з падобнай назвай, і кожны з іх прэтэндуе на сувязь з першай у Крэве каталіцкай святыняй.

Толькі як магла ўзнікнуць тая сувязь? Да існуючага крэўскага касцёла адсюль – каля трох кіламетраў.

## Касцёл замест паганскага капішча?

Верагодна, што першапачатковы тутэйшы каталіцкі храм паўстаў менавіта каля гарадзішча, колішняга сэрца паганскага Крэва. Мы ведаем, што акаталічванне прыхільнікаў старой рэлігіі было адной з умоў Крэўскай уніі. Відаць, у нашым краі такіх людзей было нямала, і Крэва ў шэрагу першых атрымала ад новаабранага польскага караля **Уладзіслава II Ягайлы** свой касцёл. Яго маглі ўзвесці на месцы, на якім дагэтуль знаходзілася паганскае капішча.

З часам, калі гарадзішча страціла сваю значнасць, цэнтрам паселішча зрабілася тэрыторыя ля каменнага замка. Туды ж магла быць перанесеная і каталіцкая святыня. А памяць пра той першы касцёл доўгі час захоўвалася ў назве пагорка, на якім ён мог размяшчацца.

## Як вялікі крэўскі камень апынуўся ў балоце

Вылучыўшы два магчымыя пункты месцазнаходжання першага крэўскага касцёла – «Касцельная гара», пра якую згадвае Грынкевіч і якая месціцца побач з гарадзішчам, і «Kirche» з нямецкай схемы, што за пару соцень метраў на поўнач ад іх, я схільны да думкі, што ўсё ж першы з тапонімаў больш прэтэндуе на ролю таго аб'екта, які нас цікавіць. Больш за тое, яго сучасная назва – гара Гром, калі паразважаць, таксама служыць на карысць гэтага. Словы «гром» і «пярун» у беларускай мове з'яўляюцца сінонімамі, якія абазначаюць адну і тую ж прыродную з'яву.

Але не ўсе ведаюць, што другое слова ўтварылася ад імя паганскага бажаства Перуна. Таму магчыма, што і пагорак да з'яўлення на ім касцёла, называўся Перуновай гарой, ці папросту – Перуном. **Адам Кіркор** у сярэдзіне 19 стагоддзя пісаў у кнізе «Рысы з гісторыі і жыцця літоўскага народу», што «галоўныя храмы Пяркунаса і свяшчэнныя дубовыя гаі былі ў Крэве, Рамаве, Вільні і ў іншых месцах».

Са з'яўленнем на пагорку з колішнім капішчам каталіцкай святыні, адны пачалі называць яго гарой Касцельнай, іншыя ж працягвалі ўжываць старую назву. З часам, калі пра паганства пачалі забываць, то забылі і ў гонар каго пагорак быў першапачаткова названы. Пачалі спачатку блытаць аднайменныя бажаства і прыродную з'яву, а затым і замяняць у тапоніме сінонімам назву той з'явы – «гром» замест «пярун». Не выключана, што такая падмена была зроблена наўмысна працаўнікамі старой рэлігіі.

Ля падножжа гары знаходзіцца Вялікі крэўскі камень, які з'яўляецца помнікам прыроды рэспубліканскага значэння. Гэты магутны валун таксама мог мець дачыненне да рэлігіі нашых продкаў. Не выключаю, што ў паганскія часы ён размяшчаўся на вяршыні пагорка, выконваў пэўную сакральную ролю і мог мець іншую, звязаную з вераваннямі прашчураў, назву. Перад тым, як узводзіць на яго месцы каталіцкую святыню, праваднікі хрысціянства зрынулі гэты паганскі сімвал з пагорка. Той без цяжкасцяў скаціўся па крутым склоне да месца, дзе ляжыць да нашага часу. Мясцовасць балоцістая, таму вялікая частка каменя знаходзіцца цяпер пад зямлёй.

«Дык а што тады наконт тапоніма, пазначанага на нямецкай схеме як «Kirche»? – спытаеце вы. А хто сказаў, што загадка разгаданая! Не будзем забываць, што слова гэта можна перакласці, як «царква»! (а можа, «царкавішча»). Карацей кажучы, ёсць яшчэ над чым папрацаваць.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

### 28 СНЕЖНЯ

**1908.** 110 гадоў назад у Вільні заснаванае выдавецтва «Наша хата» (дзейнічала да 1911 г.).

**1588.** Гродна, згодна з пастановай Кракаўскага сейма, стаў цэнтрам каралеўскай эканоміі (заставаўся ім да 1795 г.).

### 29 СНЕЖНЯ

**1884.** У фальварку Люцынка (цяпер Малая Люцінка Валожынскага раёна) памёр **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**, паэт, драматург, класік беларускай літаратуры. Пахаваны на могілках ва ўрочышчы Тупальшчына каля в. Паднявічы, цяпер Валожынскі раён.

**1863.** 155 гадоў з дня нараджэння беларускага спартсмена-веласіпедыста **Міхаіла Дзявочкі**. Нарадзіўся ў Мінску. Быў служачым на Лібава-Роменскай чыгунцы. Пераможца гонак Масква-Ніжні Ноўгарад, Пецярбург-Масква. Чэмпіён Расіі (1894 г.) і Англіі (1896 г.) у гонках на трэку.

### 30 СНЕЖНЯ

**1918.** 100 гадоў назад створаны мінскі беларускі педагагічны інстытут.

**1975.** У Жупранах Ашмянскага раёна ўстаноўлены помнік Францішку Багушэвічу, у Кушлянах Смаргонскага адкрыўся Дом-музей паэта.

**1918.** 100 гадоў з дня адкрыцця ў Смаленску 1-га з'езда КП(б) Беларусі. Прысутнічала 75 дэлегатаў ад Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай, Віленскай і Чарнігаўскай губерняў. З'езд прыняў рашэнне аб абвяшчэнні Беларускай ССР і стварэнні кампартыі, вызначыў адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел рэспублікі.

### 1 СТУДЗЕНЯ

**1919(?).** 100 гадоў назад у Вільні заснаваная беларуская гімназія.

**1929.** 90 гадоў назад у Мінску адкрылася Акадэмія навук (ад 1991 года – Нацыянальная акадэмія навук Беларусі).

**1932.** Нарадзіўся **Часлаў Цыбоўскі** (г. Смаргонь), удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні ў 1949-1950 гг. Памёр у польскім горадзе Дзержанюў (Dzierzaniow), дзе і пахаваны (1978 г.).

**1933.** У Вільні выйшаў першы нумар газеты «Родны край», орган Таварыства Беларускай Асветы (выдавалася да 29 лістапада 1936 г.).

**1861.** Нарадзіўся **Яўхім Карскі** (в. Лаша, цяпер Гродзенскі раён), філолаг-славіст, мовазнаўца, літаратуразнаўца, фалькларыст, этнограф, палеограф, археограф, бібліёграф, педагог, заснавальнік навуковага беларусазнаўства.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Вялікі цацачны гадзіннік і Дзед Мароз на прышчэпцы

## Вядомыя жыхары і ўраджэнцы рэгіёна распавялі пра ёлачныя цацкі са свайго дзяцінства

**Касманаўт у шкляным скафандры з надпісам «1961», зялёныя шышкі, нібы прыцярушаныя сняжком, вясёлыя зайчыкі і мядзведзі, шкляныя шары, набытыя ў чэргах у час дэфіцыту.**


Фота meshok.net.

Некаторыя з нашых субяседнікаў узгадалі цацкі на прышчэпках са свайго дзяцінства.

Штогод многія з нас у снежні разбіраюць каробкі з ёлачнымі цацкамі і, глядзячы на іх, згадваюць сваё дзяцінства. Мы звярнуліся да ўраджэнцаў і жыхароў нашага рэгіёна з просьбай прыгадаць тую самую святочную цацку з дзяцінства.

**Валянціна Ліштван, работнік культуры, жыхарка Ашмянаў:**



– Без роздуму – вялікі цацачны бліскучы гадзіннік і ёлачныя пацеркі. У нас не было на ёлцы традыцыйных у той час пацеркаў. І я з такой дзіцячай зайздрасцю глядзела на чужыя ёлкі, упрыгожаныя імі. А чаму падабаўся гадзіннік? Не ведаю. Але запомніўся асабліва адзін момант з дзіцячага жыцця. У чатыры гады я атрымала апёк 65% цела. Былі доўгія месяцы ў бальніцы, перасадка скуры, ледзь выжыла. А калі вярнулася дамоў у канцы лютага, мяне чакала ўбраная навагодняя ёлачка і на самай верхавіне красаваўся гадзіннік – серабрыста-чырвоны. Ён мне і цяпер у вачах стаіць.

**Ігар Кіцікаў, дырэктар Дзяржаўнага вілейскага каледжа, жыхар Вілейкі:**



– Любімая навагодняя цацка – Дзед Мароз. У дзяцінстве хацеў, як ён, стаць добрым чараўніком. Добрым стаць не атрымалася. А вось чараўніком – крыху.

**Аляксандр Тамковіч, журналіст, ураджэнец Ашмянаў:**



– У маім дзяцінстве было шмат цацак са старадаўніх часоў. Не магу дакладна сказаць, якіх – польскіх ці савецкіх. Памятаю, што гэта былі розныя зайчыкі, мядзведзі, ёлачкі. Прыгожыя шары заўсёды вешалі на самы верх, каб дзеці не змаглі іх дастаць. З кожным годам тых цацак заставалася ўсё менш і менш. Гэта цяпер яны амаль не б'юцца, а раней… А маёй любімай ёлачнай цацкай была гронка вінаграду, якая выглядала, як сапраўдная. Гэта цяпер вінаград часта бывае на сталах, а тады ў большасці – на ёлках.

**Віктар Шніп, пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», ураджэнец Валожыншчыны:**



– У нас дома ў вёсцы ў маім дзяцінстве на навагоднюю ялінку кожны год чаплялі ўсё меней і меней купленых цацак. Ставілі ялінку, разбіралі – і цацкі біліся. Новых не было дзе купіць. І калі мне было гадоў 12, а сястры Валі 11, мы пачалі самі рабіць цацкі на ялінку. Ляпілі з пластыліну і воску, выразалі з паперы гірлянды, сняжынкі. Калі мне было 14 гадоў, дык мы перад Новым годам зрабілі дамашнюю насценную газету. Я пісаў вершы і смяшынкі, а сястра з братам малявалі. Пачытаць нашу насценную газету прыходзілі не толькі нашы сябры і аднагодкі, а таксама дарослыя суседзі. І мне па сёння памятаецца наша святочная газета, нават адзін верш памятаю, але цытаваць яго не буду, бо ён мне, сённяшняму, не падабаецца.

**Дар'я Ліс, журналіст-фрылансер, жыхарка Смаргоншчыны:**



– У нашай сям'і ёсць рэтрачамадан для ёлачных цацак, які прыехаў з бацькавага дзяцінства. Шкляныя Дзед Мароз са Снягуркай, шышка – гэта ўжо цацкі з дзяцінства мамы. Таксама Дзед Мароз са Снягуркай, якія пад ёлку ставім. Вось такія рарытэты, з якімі звязана шмат дзіцячых успамінаў.

**Юрась Камандзірчык, скульптар, жыхар Мядзельшчыны:**



– Як зараз перад вачыма стаіць цацачны Дзед Мароз з торбай падарункаў за плячыма. Вышыня – недзе каля васьмі сантыметраў. Увесь такі белы, а торба з падарункамі чырвоная. Мы яго на лапку сасны вешалі, таму што на маёй радзіме, на Брагіншчыне, елкі не раслі, толькі сосны.

**Вольга Шляпо, старшыня Вілейскага раённага аб'яднання прафсаюзаў, жыхарка Вілейкі:**



– Ёлку прыбіраць люблю з дзяцінства. Любімая цацка – маленькі Дзед Мароз на прышчэпцы. Яго заўсёды старалася прычапіць на самы верх навагодняй ёлкі.

**Эдзіта Бранцэвіч, выхавальніца беларускамоўнай групы, жыхарка Смаргоні:**



– З дзяцінства памятаю вялікія распісныя шкляныя шары ўнутры з дожджыкам. Яны былі незвычайна далікатныя і, пэўна, дарагія, бо, калі мама купіла іх з нейкага заробку, мы з сястрой вельмі радаваліся і бераглі іх. Яшчэ мне падабаліся цацкі на прышчэпках: фанарыкі і сава. Іх было лёгка прышчапляць на ёлку. Наш тата дазваляў мне гэта рабіць самастойна з самага маленства, я не баялася іх пабіць. У бацькоў да гэтага часу ёсць гэтыя старыя шкляныя цацкі, мы вельмі шануем іх. Калі я выйшла замуж, некалькі цацак мне далі ў пасаг. І хоць з той пары мы накуплялі шмат розных сучасных ёлачных упрыгажэнняў, многія прывозілі з-за мяжы, але цацкі з бацькоўскага дома я берагу. Цяпер для маёй дачкі яны гонар і рэліквія.

**Вітаўт Руднік, журналіст, грамадскі дзеяч, медыятрэнер, ураджэнец Астравеччыны:**



– Маё дзяцінства не было багатым на навагоднія, ды і іншыя цацкі. Усё ўпрыгожванне навагодняй ялінкі складалася з некалькіх старых шарыкаў, цукерак ды ваты (кшталту гэта быў снег).

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Крэве калядавалі па ўсіх фальклорных традыцыях

СМАРГОНЬ

Традыцыю калядавання ў Крэве аднавілі ў мінулым годзе стараннямі **Сяргея Гапона** і этнаграфічнага клуба «Кола» з Маладзечна. А сёлета да вяскоўцаў завіталі музыкі гурта «Мярэжа» з Маладзечна і баяніст **Аляксей Крукоўскі**.

Калядоўшчыкі выдатна вывучылі аўтэнтычны фальклорны матэрыял, які збіралі дзесяцігоддзямі ў экспедыцыях. Спявалі песні, характэрныя на Каляды менавіта для Заходняй Беларусі. Музыкі намагаліся перадаць традыцыйны дух свята сучаснікам.

З Калядой хадзіла Каза – **Настасся Шпілеўская**, Мядзведзь – **Зміцер Мурашка** – з Цыганкай – **Юліяй Літвінавай**, Смерць – **Алена Кандыба**, Чорт – **Сяргей Латышаў**, Анёл – **Юлія Пракоф'ева** і Доктар – **Таццяна Зубава**. Грымела музыка, сыпаліся народныя жарты і не спыняліся танцы. Ліліся калядныя спевы ў падарунак гаспадарам.

Штогадовая ўдзельніца калядавання Наста Шпілеўская кажа:

– Мы нават забавы, вобразы і жарты аднаўлялі з фальклору. Усе маскі і ўборы старанна падрыхтавалі. Нам самім неверагодна цікава і прыемна ўдзельнічаць у калядаванні. Таму і з'язджаемся з Маладзечна, Мінска і Валожыншчыны.

### Што паказвалі калядоўшчыкі

Сюжэт калядавання рабілі такі. Мядзведзь быў вучоны, з самой смаргонскай акадэміі. Каза дык на дзіва хваравітая. Як канстатаваў Доктар, мела сіндром «вострай кілбаснай недастатковасці». Гаспадыні ратавалі як маглі рагатую ад яе прыпадкаў. Хто чарку гаючай вады паднясе, хто шматок сала, а каторая дык і кілбасу на рог павесіць ці мандарынку на спінку пакладзе.

Калі Каза памірала, то за ёй ішла Смерць і Чорт, каб забраць у пекла. Толькі Доктар і шчодры гаспадар ратавалі бедную.

Цыганка вадзіла Мядзведзя і варажыла на лёс гаспадароў.

Усяго калядоўшчыкі абышлі шэсць-сем хат. Паўсюль гаспадары чакалі, распачыналі святочную вячэру. І з ахвотай прымалі незвычайных гасцей.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**



Гаспадары гасцінна запрашалі калядоўшчыкаў.



Казу якімі толькі прысмакамі не ратавалі.



Маска Казы распісаная ў мясцовых традыцыях.




Цыганка варажыла гаспадарам і прадказвала будучае.



Перад домам гаспадароў трэба праспяваць адмысловую песню.

# Рэгіянальная газета.




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017



Маладзечна, ГЦ «Тройка», 5 паверх
(Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518).
Тэл./факс: (8-0176) **53-78-04**;
(8-029) **573-28-47**, **676-84-20**.
reklama@rh.by **rh.by • рг.бел**





Фота wallpaperscraft.com

| | |
|---|---|
| **1 студзеня** | Новы год |
| **7 студзеня** | Каляды праваслаўныя |
| **8 сакавіка** | Жаночы дзень |
| **21 красавіка** | Вялікдзень каталіцкі |
| **28 красавіка** | Вялікдзень праваслаўны |
| **28 красавіка** | Дзень нараджэння «Рэгіянальнай газеты» |
| **1 мая** | Дзень працы |
| **7 мая** | Радаўніца |
| **9 мая** | Дзень Перамогі |
| **3 ліпеня** | Дзень Незалежнасці |
| **7 лістапада** | Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі |
| **25 снежня** | Каляды каталіцкія |

## Студзень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Аўт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ср** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Чц** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Пт** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Сб** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Ндз** | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Аўт** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Ср** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Чц** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Пт** | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| **Сб** | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| **Ндз** | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## Сакавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Аўт** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Ср** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Чц** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Пт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Сб** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ндз** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

## Красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Аўт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ср** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Чц** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Пт** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Сб** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Ндз** | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Аўт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ср** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Чц** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Пт** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Сб** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ндз** | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| **Аўт** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Ср** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Чц** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Пт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Сб** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ндз** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## Ліпень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Аўт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ср** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Чц** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Пт** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Сб** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Ндз** | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Аўт** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ср** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Чц** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Пт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Сб** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ндз** | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Верасень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Аўт** | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Ср** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Чц** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Пт** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Сб** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Ндз** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Кастрычнік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Аўт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ср** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Чц** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Пт** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Сб** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Ндз** | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Аўт** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Ср** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Чц** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Пт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Сб** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ндз** | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## Снежань

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Аўт** | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ср** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Чц** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Пт** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Сб** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Ндз** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Самае смачнае лякарства.
3. Уяўная лінія, якая праходзіць вакол зямнога шара на роўнай адлегласці ад абодвух полюсаў і падзяляе зямны шар.
5. Быць жывым, існаваць.
9. Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.
11. Ой, ладачкі-ладкі, надышлі …
13. Прыстасаванне для выхаду праз сцэну.
14. Казачнік Ганс Хрысціян Андэрсен заўсёды з сабой насіў гэты прадмет. Ён моцна баяўся пажараў і лічыў, што з дапамогай яе зможа выратавацца ад пажару праз акно.
18. Вельмі непрыемнае пачуццё.
19. Аптычная прылада з двух шкельцаў з аглабелькамі.
20. Адсутнасць святла, густы змрок.
21. Рухаючая сіла, а таксама крыніца такой сілы, якая цягне.
23. Аранжавы атрыбут Новага года.
25. Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз.
26. Вучэнне аб маралі, як адной з форм грамадскай свядомасці, аб яе сутнасці, законах яе развіцця і ролі ў грамадскім жыцці.
27. Чырвоны радок.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Гэта слова па-грэчаску значыць «адпачынак» – так называліся лаўкі, на якіх адпачывалі.
4. Прадмет, які выстаўляецца ў музеі або на выстаўцы для агляду.
6. Вострая інфекцыйная кішэчная хвароба.
7. Даслоўная вытрымка з тэксту ці прамовы.
8. Гаспадар залатой табакеркі з беларускай казкі.
10. З якой краіны паходзіць шахматыст Юдыт Палгар, якая ў 15 год стала гросмайстрам, абыграўшы Карпава і Каспарава. Адзіная шахматыстка, што дасягнула суперграсмайстарскага рэйтынгу.
12. Металічны пруток або ланцуг з цяжарам на канцы, які мерна вагаецца з боку ў бок у падвешаным стане.
15. Павышаная пачуццёвасць, пачуццёвы элемент.
16. Гэтыя жывёлы выцеснілі з вострава Кеймана-Грандзі ў 35 кіламетрах ад пабярэжжа Бразіліі і людзей, і іншых жывёл. Амаль усе людзі, якія туды траплялі, жывымі не вярталіся. Аднак заўсёды з'яўляюцца смельчакі, якіх не пужае небяспека. Яны лічаць, што на востраве піраты схавалі скарбы, а гэтых істот пакінулі іх абараняць.
17. Яе выраблялі на фабрыцы ў Смаргоні, заснаванай у 1590 годзе.
21. Зацукраваны плод, зацукраваная скурка плода.
22. Менавіта яно выратавала Эйфелеву вежу. Яе збіраліся дэмантаваць праз 20 год. Але за гэты час на вежы сталі прыстасаванні, каб працавала яно.
24. Вёска ў Калінкавіцкім раёне, дзе каля 26 тысяч год таму была стаянка эпохі палеаліту.
25. Замужняя жанчына ў адносінах да свайго мужа.
28. Недарэчнасць, бязглуздзіца, лухта.

## Адказы на крыжаванку з №51

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Селядзец. 4. Бэлька. 6. Пазыка. 10. Лодар. 11. Полацк. 13. Лазня. 16. Джэм. 17. Дробязь. 19. Грамада. 20. Пароль. 21. Вадуц. 23. Брыкет. 25. Сват.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Лірыка. 3. Дуб. 5. Бравада. 7. Дазвол. 8. Ірландыя. 9. Паласа. 11. Паверх. 12. Падкова. 14. Дзікун. 15. Лупіна. 17. Дагавор. 18. Бяспека. 22. Лістота. 23. Бюро. 24. Лакей. 26. Паталогія.

## ГАРАСКОП 28 СНЕЖНЯ – 3 СТУДЗЕНЯ

**Усіх вас з Новым годам і Калядамі!**

**АВЕН.** Вам зоркі даюць шанец, які выпадае раз на 12 гадоў, дораць магчымасць праявіць сябе і забяспечыць апекай любыя вашы ідэі.

**ЦЯЛЕЦ.** Перыяд актыўнага расшырэння гарызонтаў і адстойвання жыццёвых пазіцый. Вас будзе моцна цягнуць у далёкія краіны і рамантычныя падарожжы.

**БЛІЗНЯТЫ.** Гэты час для вас будзе вельмі ўдалы, асабліва ва ўсіх тых сферах жыцця, дзе трэба праяўляць актыўнасць, настойлівасць. Добра пойдуць справы, звязаныя з фінансамі і іншымі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, вельмі добра нешта ствараць сваімі рукамі. Энергіі ў вас будзе дастаткова, і яна не будзе ісці марна, а набудзе цалкам рэальную форму, чым у значнай ступені палепшыць ваша становішча.

**РАК.** На душы надыходзіць спакой, справы спорацца, фінансавы стан спрыяльны. А яшчэ ў вас з'явіцца здольнасць дастаткова моцна ўплываць на падзеі, што адбываюцца вакол вас, і атрымліваць з іх максімум карысці для сябе, не затрачваючы на гэта занадта шмат сіл. Гэтым варта скарыстацца з толкам.

**ЛЕЎ.** Цяпер вы будзеце цалкам аддадзеныя сям'і, выконваць функцыі Дзеда Мароза, здзяйсняць правільныя і высакародныя ўчынкі, і ,як прыстойны сем'янін, нават нікому не будзеце пярэчыць.

**ДЗЕВА.** Вы шмат набудзеце. Аднак лёс прынясе сюрпрыз. Вас будуць хваляваць сферы, далёкія ад прафесійнага жыцця. Не будуць яны мець адносінаў і да фінансаў.

**ШАЛІ.** Падзеі гэтых дзён заклікаюць да вашаму розуму, да цвярозага мыслення і ўмення ўзважваць усе за і супраць. Ад вас спатрэбіцца прыняцце правільных рашэнняў і не ісці на повадзе ў эмоцый, імгненных жаданняў і тым больш патрэбаў іншых людзей, зусім адрозных ад вашых патрэб.

**СКАРПІЁН.** Вы будзеце задаволеныя сабой, і менавіта спрыяльная рабочая абстаноўка створыць тыя ўмовы, якія ў далейшым прывядуць вас да ідэальнага душэўнага стану.

**СТРАЛЕЦ.** Вам увесь год будзе дапамагаць планета ўдачы Юпітэр, але памятайце: пад ляжачы камень вада не цячэ.

**КАЗЯРОГ.** Калі вам хочацца змяніць жыццё – пачынайце з малога. Цяпер вялікія надзеі вельмі лёгка ператвараюцца ў вялікія ілюзіі. Для паляпшэння матэрыяльнага становішча выкарыстайце свой талент і інтуіцыю.

**ВАДАЛЕЙ.** Не выключана, што вы адчуеце ўзмацненне цягі да філасофска-светапоглядных і культуралагічных ведаў. Формы і ўстаноўкі, якія вы будзеце ствараць у думках, змогуць у далейшым увасобіцца ў жыцці.

**РЫБЫ.** Хіба можна яшчэ чагосьці жадаць, калі і так усё добра, усё ёсць і ваша жыццё праходзіць у радасці? Цяпер увесь час вы будзеце як сыр у масле, але вам гэтага будзе мала. Калі іншыя людзі на вашым месцы папрасту адпачывалі б, то вы станеце шукаць новыя прыгоды, крыніцы даходу, радасці і задавальнення.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | | | | | 1 | 9 | 3 |
| | 6 | | | | | | 7 | 2 |
| | 3 | | | 8 | | 4 | | |
| 7 | 5 | | | | | | | 4 |
| 3 | | | | 7 | 4 | | | |
| 4 | 1 | 6 | | | | | | |
| 8 | | 9 | | | 2 | | | 5 |
| | | | 5 | 6 | | 9 | | 7 |
| | | | | 9 | | | 8 | 1 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Для падпісчыкаў «РГ»

**Дарагія нашы падпісчыкі! У першым нумары «Рэгіянальнай газеты» вас чакае традыцыйны падарунак – наш фірменны каляндар. Сёлета на ім – маладзечанка Нэлі Соніч у вобразе восеньскай Дрыяды. Аўтар фотаздымка – Іна Бажко. Плануйце час па нашым календары, і няхай у 2019 годзе будзе больш яркіх і радасных дзён.**



● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Шчырліц ужо тры месяцы дасылаў у Цэнтр адну і тую ж шыфроўку:
3854 8594 5435 9875
4253 5466 5043 9421
4901 0894 8937 7860
Але ні на адну з крэдытак не прыходзіла ні капейкі заробку.

***

Андрэй усё лепш і лепш разбіраўся ў палітычнай сітуацыі ўсіх краін, але характэрны пах алкаголю пачаў ужо паціху выветрывацца.

***

Шатландская мудрасць:

1. Шчасце не купіш. Але плакаць у «Мерседэсе» зручней, чым на ровары.
2. Прабач свайму ворагу, але запомні, як завуць гэтага нягодніка.
3. Дапамажы таму, каму трэба дапамога. І ён успомніць цябе... калі дапамога спатрэбіцца зноў.

***

– А што, хлеб нясвежы?
– Свежы, націскайце мацней.

***

Звычайная ноч. Муж і жонка не могуць заснуць, за сцяной крычыць дзіця.
– Ты ўсё яшчэ хочаш дзіця нарадзіць?
– А як жа, трэба ж ім неяк адпомсціць!

***

Калі сіноптыкі кажуць, што заўтра будзе ясна, асабліва не абнадзейвайцеся. Гэта значыць, што цяпер ім зусім няясна, якое там будзе надвор'е. А вось прыйдзе заўтра, і будзе ясна, якое надвор'е.

***

– Алё, пракуратура?
– Так, слухаю вас.
– А мой тата купіў «Вольву» на скрадзеныя грошы.
– Каця?!
– Тата?

***

Адна дзяўчына ўсё чакала і чакала прынца на белым кані. А прыйшоў паштальён і прынёс ёй пенсію.

***

Калі жонка чысціла 23-ю рыбіну, то раздражнёна крычала мужу:
– Па-чалавечы цябе прашу! Едзеш на рыбалку, будзь як усе нармальныя людзі, пі!

## Уваходзьце ў Новы год са старымі сябрамі



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем лiтару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сiнiм колерам. Пад iндэксам 632122 – «Рэгiянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмiнал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 29 снежня, субота

**Вецер:** заходні, 1-2 м/с




Усход 9.33
Захад 16.55
Даўжыня дня 6.18

Усход 00.32
Захад 13.24
Месяц на сходзе

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -25,5°С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +7,4°С у 1994 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,7 мм у 2009 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вы абавязкова плануеце зрабіць у наступным годзе?



**Антон Троцкі, працуе на чыгунцы:**
– Хачу дарабіць свой кастамны матацыкл і з'ездзіць на ім на байк-фестываль – на фестывалі такога роду ні разу не быў. Ці павандраваць па краіне ў свой адпачынак. Канкрэтнага маршруту няма, але, хутчэй за ўсё, па прыродных месцах накшталт мелавых ці браслаўскіх азёр.



**Паліна Салгалава, адміністратар медыцынскага цэнтра:**
– Глабальных планаў няма. 2018 прынёс шмат усяго добрага, я выйшла замуж. Так што ў наступным годзе хочацца проста захаваць усё, што ў мяне ёсць. Ну і, вядома, хочацца, каб наша маладая сям'я стала больш на аднаго чалавечка.



**Руслан Пякарскі, слесар на заводзе:**
– У наступным годзе хачу грунтоўна змяніць сферу дзейнасці. Збіраюся адкрыць ІП, стаць прадпрымальнікам і працаваць на карысць сябе і сваёй сям'і.



**Настасся Горбат, юрыст:**
– Абавязкова паеду ў падарожжа. Хачу ў Партугалію. З хлопцам. Па танных білетах праз Еўропу, але па бюджэце пакуль не ведаю. Прыкладна 1000 еўра на чалавека. У гэтым годзе адпачывала пад Маладзечнам.



**Андрэй Нікіцкі, студэнт:**
– У 2019 годзе сыграю сола з камерным аркестрам, магчыма, зраблю запіс на радыё. Таксама скончу навучанне ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і буду паступаць у магістратуру за мяжой. А яшчэ стану дзядзькам – у мяне з'явіцца пляменніца.



**Сяргей Цар, беспрацоўны:**
– У наступным годзе абавязкова кіну курыць, бо гэтага не трэба рабіць. Лепш пайду ў басейн, так больш карысці. Зраблю сябе лепшым, чым быў. Усім у новым годзе жадаю паразумення, любіце адзін аднаго.



**Ала Караткова, у дэкрэтным адпачынку:**
– Усе планы на наступны год будуць накіраваныя на нашу першую дачку, Злату, якая з'явілася на свет тры месяцы таму. Хачу як больш увагі надаваць ёй. Каб яна пазнавала свет, развівалася, вучылася новаму, патрэбны час і клопат бацькоў.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№52 (1235) 28.12.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1357. Падпісана ў друк у 9.00 27.12.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.